

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№15 (197) КАСТРЫЧНІК 2015 ГОД

ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ

## ВОБЛАСЦЬ ПАСТАВІЛА РЭКОРДЫ ПА "АКТЫЎНАСЦІ ВЫБАРШЧЫКАЎ"

**Паводле афіцыйных дадзеных, на Віцебшчыне прагаласаваў 91% выбаршчыкаў. 87,3% – за Лукашэнку. Кандыдатуру Таццяны Караткевіч падтрымалі 3,56% выбаршчыкаў. Найбольшыя сімпатыі яна выклікае ў жыхароў Глыбоцкага (8,07%), Шумілінскага (6,92%) і Верхнядзвінскага (6,89%) раёнаў.**

Жыхары Віцебскай вобласці апынуліся самымі актыўнымі выбаршчыкамі ў краіне: на выбары кіраўніка дзяржавы прыйшлі 798 015 чалавек. Гэта 91% грамадзян, унесеных у абласныя спісы. Рэгіён даў самую вялікую лічбу і па датэрміновым галасаванні - з 6 па 10 кастрычніка ўчасткі наведалі 39,49% жыхароў.

11 кастрычніка найбольш актыўна ўчасткі наведвалі да 10 гадзін раніцы - у гэты перыяд у вобласці прагаласавала 45,10% выбаршчыкаў. У апошнія два гадзіны перад закрыццём участкаў актыўнасць знізілася: з 18 да 20 гадзін свой голас аддалі 2,5%.

Па папярэдніх дадзеных Цэнтрвыбаркама, лідэрам па яўцы выбаршчыкаў стаў Бешанковіцкі раён - тут яна была практычна стоадсоткавай - 99,2%. Амаль гэтак жа актыўна галасавалі жыхары Лёзненскага (97,8%), Расонскага (97,6%), Шаркаўшчынскага раёнаў (97,3%). Найменшую колькасць людзей прыйшло на ўчасткі ў Першамайскім раёне Віцебска - 83%.

87,30% выбаршчыкаў вобласці выказаліся за пяты прэзідэнцкі тэрмін Аляксандра Лукашэнкі. Яго апаненты не набралі і 5%. Амаль цалкам дзеючага кіраўніка дзяржавы падтрымалі ў Бешанковіцкім раёне (96,09%).

За Сяргея Гайдукевіча прагаласавала 3,95% выбаршчыкаў рэгіёну (прычым найбольшую падтрымку ён знайшоў у жыхароў Першамайскага раёна Віцебска (8,54%), Наваполацка (5,90%) і Лепельскага раёна (4,25%)).

Кандыдатуру Таццяны Караткевіч падтрымалі 3,56% выбаршчыкаў. Найбольшыя сімпатыі яна выклікае ў жыхароў Глыбоцкага (8,07%), Шумілінскага (6,92%) і Верхнядзвінскага (6,89%) раёнаў.

За Мікалая Улаховіча прагаласавала 1,40% выбаршчыкаў. Больш за ўсё прыхільнікаў у вярхоўнага атамана Беларускага казацтва пражывае ў Наваполацку (3,10%) і Першамайскім раёне Віцебска (3,05%).

Галачку супраць усіх кандыдатаў паставілі 25483 выбаршчыка.

**TUT.BY**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ВЫДАЛІ ЗАРПЛАТУ

**Да пачатку дня галасавання ў Шумілінскім раёне была ліквідавана запазычанасць па заробках амаль ва ўсіх гаспадарках.**

Паводле інфармацыі Нацстаткамітэта ў краіне амаль не засталося пратэрмінаванай запазычанасці па заработнай плаце па стану на 1 кастрычніка 2015 г.

На сённяшні дзень існуе толькі ўсяго крыху болей за дзесятак арганізацый-даўжнікоў па зарплаце з усёй Беларусі.

Сярод гэтых 13 прадпрыемстваў з Віцебскай вобласці адзначаны два: ААТ "Класіка індустрыі моды" і ААТ "Віцебскі камбінат шаўковых тканін", аднося які вядзецца працэдура банкруцтва.

Гэта запазычанасць маецца перад 1200 працаўнікамі, а яе сума склала 27,9 млрд. рублёў (0,1% ад фонду заработнай платы па рэспубліцы за жнівень 2015 г).

У Шумілінскім жа раёне ўпершыню ў гэтым годзе па афіцыйных даных не маюць запазычанасці па заробках сталыя даўжнікі – прадпрыемствы аграпрамысловага комплексу: ААТ "Лаўжанскае", КУСГП "Сіроцінскі", КУСГП "Ульскі", КУСГП "Мішневічы", ААТ "Прыдзвінскі", АА"Аграбаравінка", ААТ "Ляжні", ААТ "Прыазёрны мір".

Аднак, што будзе з даўгамі па зарплаце далей пасля выбараў "новага" кіараўніка Беларусі?

**Алесь Шумскі**

ЭКАНОМІКА

## ВЕЖА ЗБАНКРУТАВАЛА

**Сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Вежа», якая вырабляла ў Шуміліне алкагольную прадукцыю, судом прызнана банкрутам.**

Гэта прадпрыемства аказалася няздольным плаціць крэдытарам па сваіх даўгавых абавязацельствах з-за адсутнасці сродкаў.

22 верасня эканамічным судом Віцебскай вобласці ў дачыненні да яго адкрыта конкурсная вытворчасць.

Раней для прадпрыемства ў мэтах праверкі наяўнасці падстаў для адкрыцця конкурснага вядзення і забеспячэння захаванасці маёмасці даўжніка быў усталяваны ахоўны перыяд на два месяцы.

Перадусім СТАА «Вежа» было зарэгістравана ў красавіку 2001 года. Прадпрыемства займалася вытворчасцю рознай алкагольнай прадукцыі: абрыкосавых, вінаградных і яблычных віна, сідру. Уліпеніў штаце прадпрыемства налічвался 37 работнікаў.

Паводле дакументаў, прадстаўленых эканамічнаму суду на 1 чэрвеня 2015 г. крэдыторская запазычанасць вінзавода складала 13 мільярдаў мільёнаў беларускіх рублёў, пры дэбіторскай запазычанасці ў 670 мільёнаў рублёў. Актывы і маёмасць прадпрыемства ацэньваліся ў 12 мільярдаў 827 мільёнаў рублёў.

Яшчэ ўвесну 25 красавіка агульны сход удзельнікаў сумеснага таварыства з абмежаванай адказнасцю «Вежа» прыняў рашэнне аб падачы ў эканамічны суд заявы аб банкруцтве.

**Ян Вайтовіч**

АГРАЭКАТУРЫЗМ

## КОНКУРС НА ЛЕПШУЮ АГРАСЯДЗІБУ

**Лепшую аграсядзібу Віцебскай вобласці выберуць з 15 удзельнікаў, у ліку якіх ёсць і прадстаўнікі Шумілінскага раёна.**

Паводле загадчыцы сектарам турызму і фізкультурна-аздараўленчай работы ўпраўлення спорту і турызму аблвыканкама Святланы Астанінай, з кожным годам жадаючых стаць удзельнікамі конкурсу "Лепшая аграэкасядзіба Віцебскай вобласці" становіцца ўсё больш. Калі ў мінулы раз паступіла каля 30 заявак, у гэты - каля 40. Таку, у гэтым годзе былі адабраны 15 удзельнікаў з Браслаўскага, Віцебскага, Глыбоцкага, Докшыцкага, Міёрскага, Аршанскага, Полацкага, Пастаўскага, Расонскага, Сенненскага, Ушацкага і Шумілінскага раёнаў.

У хуткім часе спецыяльна створаная камісія з супрацоўнікаў аблвыканкама, ААТ "Белаграпрамбанк", грамадская савета па развіцці аграэкатурызма ў рэгіёне наведае сядзібы ўдзельнікаў конкурса. І ў канцы кастрычніка – пачатку лістапада будуць падведзены вынікі. Пераможцы і двух лаўрэатаў будуць вызначаць у кожнай з пяці намінацый: "Экасядзіба года", "Захаванне беларускіх традыцый", "Гасціннасць", "Здаровы лад жыцця" і "Лепшы старт".

Безумоўна, удзел у конкурсе, званне лаўрэата – гэта яшчэ і дадатковая рэклама асобных суб'ектаў і ўсёй аграэкатурыстычнай сферы Віцебскай вобласці. Конкурс арганізуецца і праводзіцца Віцебскім аблвыканкамам сумесна з ААТ "Белаграпрамбанк" і Беларускім грамадскім аб'яднаннем "Адпачынак у вёсцы.

**Алесь Прыбярэжны**

БУДАЎНІЦТВА

## ЗДАДЗЕНЫ НОВЫ ДОМ

**У цэнтры Шуміліна каля будынка Шумілінскага райвыканкама пабудавалі новы 32-кватэрны дом.**

Будаўніцтва жылля ў самым шырокім паняцці і разуменні – ёсць галоўны прыярытэт сацыяльна-эканамічнага развіцця і нашага раёна. Як ніколі раней, шырока і хутка, увачавідкі растуць у апошні час новыя дамы ў Шуміліне.

На днях гарманічна дапоўніў панараму забудовы райцэнтра новы сацыяльны аб'ект: 32-кватэрны жылы дом. Дом упрыгожыў адаразу дзве цэнтральныя вуліцы райцэнтра – Кароткіна і Луначарскага. А гэта азначае, што адбыліся перамены да лепшага ў жыцці адразу ў трыццаці двух сям'ях, у тым ліку на ўласныя кватэры пабагацелі і яшчэ дзве мнагадзетныя сем'і.

Прыемна адзначыць, што ўсе будаўнічыя работы, якія вяліся сіламі "Шумілінскай ПМК-70", амаль не адставалі ад графіка. Дзякуючы прафесіяналізму нашых будаўнікоў, аб'ект быў узведены ў рэкордна кароткія тэрміны – усяго за 6 месяцаў.

І гэта яшчэ не ўсё. Работа па будаўніцтву жылля будзе прадоўжана. Наступнай пляцоўкай для забудовы стане вуліца Юбілейная. Тут на чарзе – будаўніцтва 40-кватэрнага дома для грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.

Па ўсяму відаць, след добрых перамен на карце горада і ў рэальным жыцці Шумілішчыны, пакінуты будаўнікамі сёлета, набудзе новыя прывабныя абрысы ва ўсіх важнейшых сферах нашага жыцця.

**Алесь Прыбярэжны**

БУДАЎНІЦТВА

# НОВАЯ АПТЭКА

**6 кастрычніка ў Шуміліне адбылося ўрачыстае адкрыццё абноўленага будынка аптэкі № 40.**

Раней будынак гэтага сацыяльна значнага для ўсіх жыхароў раёна аб'екта размяшчаўся ў маленькім памяшканні, што стварала нязручнасці, як для кліентаў, так і для работнікаў установы.

Ініцыятыву па правядзенні рэканструкцыі аптэкі падтрымала кіраўніцтва Віцебскага РУП "Фармацыя", якое адшукала магчымасць выдзялення грашовых сродкаў для гэтых мэтаў у памеры каля 4 млрд. рублёў.

У новым будынку аптэкі створаныя больш спрыяльныя ўмовы для абслугоўвання нашых жыхароў.

На цырымоніі адкрыцця аптэкі прысутнічала кіраўніцтва раёна, госці з вобласці, жыхары райцэнтра. Па словах старшыні Шумілінскага райвыканкама Уладзіміра Куранкова, неабходнасць такой рэканструкцыі наспела даўно. Уладзімір Пятровіч таксама адзначыў, што ўлады раёна па-ранейшаму самую пільную ўвагу будуць надаваць пытанням добраўпарадкавання, рамонту дарог і стварэнні ўмоў для жыцця насельніцтва.

У сваю чаргу намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Цярэнцьеў ухваліў працу мясцовых уладаў па добраўпарадкаванню раёна. Надняlarly ў Шуміліна адкрыецца шматкватэрны жылы дом, у стадыі завяршэння будаўніцтва царквы, рамонт фізкультурна-аздараўленчага комплексу.

Усе выступоўцы ў адзін голас жадалі прысутным і жыхарам раёна моцнага здароўя. Генеральны дырэктар УП "Фармацыя" А.Орлова правяла экскурсію па аптэцы, распавяла пра змены. Работнікі аптэкі канстатавалі, што рэканструкцыя зрабіла больш камфортнымі ўмовы працы.

**Уладзімір Амбросаў**

ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

# БАРАЦЬБА З НАСТУПСТВАМІ ПРЫРОДНАЙ СТЫХІІ

**У Шумілінскім раёне прайшлі тактыка-спецыяльныя вучэнні, падчас якіх адпрацоўваліся дзеянні сіл і сродкаў раённых аддзелаў Віцебскай тэрытарыяльнай падсістэмы ДСНС і ГА па ліквідацыі наступстваў моцнага ветру.**

29 верасня на тэрыторыі Шумілінскага раёна ў населеным пункце Сіроціна згодна тактычнаму плану вучэнняў з прычыны праходжання ўраганнага ветру стварылася пагроза падзення двух дрэў, у зоне магчымага падзення якіх знаходзяцца жылыя дамы, лінія электраперадач і аўтадарога.

На вучэннях былі задзейнічаныя РЭС, ДАІ, УАЗ «Шумілінская ЦРБ», РАНС, РВЭС, УП ЖКГ. З пастаўленымі задачамі ўсе ўдзельнікі вучэнняў справіліся ў поўнай меры. Работнікамі РЭС былі праведзены работы па дэмантажы аднаго пралёта лініі электраперадач, пасля чаго было наладжана спілаванне аварыйных дрэў, што дазволіла прадухіліць негатыўныя наступствы іх магчымага падзення.

**Сяржук Горкі**

ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА

# АНГЛІЙСКАЯ АРТ-НУВО Ў РАЁНЕ

**Ўнікальная царква XIX стагоддзя, сярэднявечны замак шатландскага архітэктара, чыгунка на ангельскія грошы і многае іншае знаходзіцца недалёка ад Шуміліна ў вёсцы Лескавічы.**

8 кастрычніка праваслаўная царква адзначала Дзень памяці Сергія Раданежскага, «ўсяе Русі цудатворца». Цікава заўважыць, што гэты святы ўшанаваны не толькі праваслаўнымі, стараверамі, грэка-каталікамі, але і мусульманамі, якія памятаюць пра Сергія Раданежскага як аб найвялікшым з аскетаў, які сфармаваў духоўнае аблічча Расіі.

Сергій Раданежскі заснаваў пяць манастыроў пры сваім жыцці, у якія паставіў настаяцелямі сваіх вучняў. А тыя, раз'ехаўшыся па свеце, былі заснавальнікамі яшчэ 40 духоўных мясцін, адкуль з іх, у сваю чаргу, выйшлі заснавальнікі яшчэ прыкладна 50 манастыроў. Вось такі пладавіты духоўны пастыр.

Вядомы Вялікі Старац і сваімі міратворчымі подзвігамі. Напрыклад, дзякуючы яго «ціхаму і рахманаму» слову да часу Кулікоўскай бітвы амаль усе рускія князі прызналі верхаводства Дзмітрыя Іванавіча. Менавіта воінства гэтага князя разграміла Мамая, і адбылося гэта не без уплыву прападобнага Сергія.

Жыццё Сергія Раданежскага суправаджалася шматлікімі цудамі. Напрыклад, адно з гэтых цудаў папярэднічала нараджэнню будучага святога. У нядзелю ў царкве падчас літургіі «раптам немаўля пачало крычаць ва ўлонні маці». Пры жыцці Сергій вылечваў хворых і нават уваскрэсіў цяжка хворага сына мясцовага жыхара. Вядомы ён і як "творца крыніцы": манахі насілі ваду для сваіх патрэб вельмі здалёку, а пасля таго як старац памаліўся каля рова з дажджавой вадой, адкрылася багатая крыніца.

Справа кожнага верыць гэтаму ці не, тлумачыць прыродныя з'явамі або светапоглядвымі пазіцыямі расказчыкаў пра падзеі даўно мінулых часоў, але дзень смерці Сергія Раданежскага з даўніх часоў шануецца як асаблівая дата ў народзе, калі моляцца аб пазбаўленні ад самых розных хвароб, а таксама аб развіцці розуму ў дзяцей, аб дапамозе ў цяжкай справе альбо вучобе, у жаданні пазбегнуць ганарыстасці. Мала хто ведае, але сваім святым заступнікам прападобнага Сергія лічылі артылерысты («пушкары»), таму яго асабліва шануюць курсанты, нахімаўцы, суворуўцы, салдаты навучальных цэнтраў, нававбранцаў і т. д. А да XX стагоддзя ў расейскім войску склалася шанаванне прападобнага Сергія Раданежскага як заступніка і памочніка ў ратнай справе усіх воінаў, сілавікоў, партызан. Яго іконы сацыдзельнічалі ў ваенных аперацыях. Многія воіны любых спецыяльнасцяў у сваіх асабістых малітвах звярталіся да яго, як да заступніка. Асабліва звяртаюцца да яго таксама маракі, ваеннапалонныя і ахвяры паклёпу.

Сергій Раданежскі – адзін з самых шанаваных святых, яму прысвечана вялікая колькасць храмаў Украіны, Расіі, Беларусі. Як паведамляе усюдысная Вікіпедыя, усяго ў свеце Сергію Раданежскаму прысвечана каля 780 храмаў. У нашай краіне амаль два дзесяткі храмаў, прыходаў і капліц ў Мінску, Гомелі, Гродне, Лідзе, Мазыры. Але калі даследуецца шанаванне памяці гэтага святога, вельмі мала згадваецца пра тое, што недалёка ад Віцебска ёсць старадаўні Свята-Сергіеўскі храм, які і па сённяшні дзень дзейнічае ў Шумілінскім раёне ў вёсцы Лескавічы.

Ўзведзена царква ў 1878 годзе з цэглы і вельмі даўгавечнага матэрыялу – бутавага каменя і з'яўляецца помнікам архітэктуры неарускага стылю. Храм знішчылі вясной 1962 перад самым Вялікаднем, аднаўлены ён быў у 1990 годзе, з гэтага ж часу ў царкве вядзецца служба.

Свята-Сергіеўскі храм мае аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю з трох частак: двух'ярусная званіца, асноўны аб'ём і трохграневая апсіда з бакавымі алтарамі.

Лескавічы – гэта цяпер вялікая вёска, храм стаіць на адной з галоўных вуліц. Цікава, што Лескавічы, як буйны населены пункт паказаны яшчэ на картах Вялікага Княства Літоўскага сярэдзіны 16 стагоддзя. Тут праходзіла найважнейшая гандлёвая дарога з Гарадка праз Чарніцы (Сіроціна) у Сянно (праз Будзілаўскую пераправу) і Бешанковічы. Акрамя таго, гэта быў цэнтральны пункт так званага зімніка, калі па лёдзе замерзлага ланцужка азёр тавары накіроўваліся ў Ловаж і далей у Полацк.

Гісторыя Лескавіч да рэвалюцыі звязаная з былым уладальнікам, В. А. Хлюдзінскім, дваранінам, католіком. Род Хлюдзінскіх выходзіць з Ломжыцкай зямлі, дзе іх продкі мелі маёнтак у вёсцы Хлюдні. Адзін з прадстаўнікоў роду Хлюдзінскіх, Ігнат, нарадзіўся ў 1807 годзе ў Оршы, а валодаў ён маёнткамі Харобрава, Бабінічы і Лескавічы. У 1833 годзе ў сям'і Ігната Хлюдзінскага ў маёнтку Антавіль, што побач з Оршай, нарадзілася дачка Цаліна, Філіпіна і іх брат Алейза. Дык вось брат і атрымаў у спадчыну Лескавічы, а пасля смерці Алейзы Хлюдзінского маёнткам стаў кіраваць яго сын Уладзіслаў, апошні з роду Хлюдзінскіх ў Лескавічах. Ён і вырашае пабудаваць у маёнтку сярэднявечны замак. Замак узводзіўся па замове самога Уладзіслава і выконваўся па праекце найвядомага шатландскага архітэктара Макей Х'ю Бейлі Скота ў 1865-1945 гадах. Бейлі Скот працаваў з 1901 года ў Бедфарце і стварыў уласную версію папулярнага ў тыя гады катэджнага стылю ў духу арт-нуво, вядомага ў Расіі як англійскі стыль ранняга мадэрна.

Вядома, што Уладзіслаў Хлюдзінскі быў актыўным дзеячом ў пытанні пракладкі чыгункі праз свае землі, што ў рэшце рэшт і адбылося. Гэта спрыяла апаратыўнаму экспарту ў Еўропу масла і сыроў, якімі славіліся Лескавічы. Дарогу пракладалі пад кіраўніцтвам ангельскага інжынера і на ангельскія грошы, так што, магчыма, праекты вакзалу і вакзальнай забудовы ў Шуміліне маюць англійскае паходжанне, таму выбар аўтарства Хлюдзінскім не дзіўны.

У пачатку XIX стагоддзя тут высаджваюць ліпавую алею, якая бярэ пачатак ад старожкі з унутранай аркай для праезду экіпажаў і вядзе да палаца. Крыху пазней побач з палацам ўзводзіцца бровар. У пачатку XX стагоддзя, паводле «Спісу населеных месцаў Віцебскай губерні 1906», на тэрыторыі Лескавіцкай воласці знаходзілася 48 вёсак з 702 дварамі, дзе пражывала 4756 жыхароў, на сям'ю прыходзілася 7,2 га зручнай зямлі. А ў самым маёнтку Лескавічы лічылася 150 дзесяцін зямлі, 20 - няўдобіцы, 150 – лясоў, 7 двароў, 35 душ мужчынскага і 41 жаночага полу. Акрамя гэтага, сюды ставіліся і 9 фальваркаў: Плігаўка, Августполле, Пузырова, Падсеў'е, Аўсеева, Чырвоны Луг, Крупчына, Беразуха, Крушынавік.

Паказаны і Пагост Лескавічы Лескавіцкай царквы, 21 дзесяціна зямлі, 2 лесу, 3 двары, 11 душ мужчынскага і 7 жаночага полу. Тэрытарыяльна Лескавічы ўваходзілі ў Лескавіцкую воласць Віцебскага павета, цэнтр воласці быў у вёсцы Смалькі.

Ёсць згадка, што палац Хлюдзінскіх быў часткова разбураны ўжо ў 1918 годзе. Ужо ў пасляэвалюцыйныя часы Лескавічы паказаны як саўгас Лескавічы. Вядома таксама, што тут быў велізарны сад працягласцю больш за 4 км. Дарэчы, і да гэтага часу сады ў гэтай мясцовасці славяцца сваёй ўрадлівасцю, а разнастайнасць гатункаў яблыкаў і груш мясцовых жыхароў яшчэ чакае свайго даследчыка.

На жаль, Хлюдзінскі маёнтак не трапіў ў спіс помнікаў архітэктуры пачатку XX стагоддзя і, хоць і з'яўляецца унікальным і адзіным на тэрыторыі Беларусі, працягвае няўхільна разбурацца.

Цікава і тое, што Шуміліна, якое ўсяго ў 5 кіламетрах ад Лескавіч, было да вайны мястэчкам, дзе палову насельніцтва складалі габрэі, дзе ўсе жыхары: і беларусы, і рускія, і палякі - ведалі ідыш, дзе былі габрэйскія школы і габрэйскія калгасы. Культурным цэнтрам гэтага населенага пункта, зусім як у фільме «Безназоўная зорка», была чыгуначная станцыя - вакзальны комплекс станцыі Сіроціна, які знаходзіўся ў сямі кіламетрах на ўсход ад аднайменнага мястэчка і стаў цэнтрам сённяшняга Шуміліна.

Не дзіўна, што пры такім раскладзе насельніцтва і забеспячэння яго вельмі прэстыжнай працай на буйным чыгуначным вузле, праваслаўнай царквы ў Шуміліне не было. А бліжэйшая знаходзілася як раз у Лескавічах. Шульман Аркадзь Львовіч у сваёй кнізе «Панесеныя стагоддзем. Шумілінскія сустрэчы» узгадвае:

Да нас у хату прыходзяць суседскія і тыя самыя рускія жанчыны, якія кідалі ў нас мацу, святочна апранутыя, з кошыкамі ў руках: «Хрыстос уваскрос, Соня Янкелеўна!» І тройчы цалуюцца з мамай. У Шуміліне не было праваслаўнай царквы. Царква (вельмі прыгожая) знаходзілася ў вёсцы Лескавічы, у 5 км ад Шуміліна. Звон званоў выразна чутны быў у Шуміліне"…

**Віцебскі кур'ер**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ПРЭЗІДЭНСКАЯ КАМПАНІЯ

# ЛУКАШЕНКО ПОЛУЧИЛ «ЭЛЕГАНТНЫЙ» РЕЗУЛЬТАТ

**За несколько дней до этих выборов Александр Лукашенко публично дал понять, что харизматичному лидеру нации негоже побеждать с цифрой ниже 80%. И — о чудо! — Центризбирком в ночь на 12 октября сообщил о победе действующего президента с предварительным результатом в 83,49% голосов.**

При этом лишь 4,42% составил официальный результат занявшей второе место Татьяны Короткевич, мягкой оппонентки Лукашенко (еще два кандидата его только нахваливали). Эта цифра в разы меньше рейтинга Короткевич, зафиксированного в сентябре независимыми социологами (17,9% по закрытому вопросу НИСЭПИ).

Краткое моралите таково: бессменный президент Беларуси не собирается менять систему, разводить гнилую демократию даже в ограниченных масштабах.

**Грубый административный инструментарий сработал**

Впрочем, перед выборами, под оком международных наблюдателей, власти позволили оппонентам устроить несколько уличных праздников непослушания. 11 октября на избирательном участке Лукашенко раскрыл секрет полишинеля: «Я жестко потребовал, чтобы не трогали никого до выборов».

Короче, силовиков, приученных «тащить и не пущать», ныне сдерживали. Но в остальном вертикаль действовала привычными довольно грубыми методами обеспечения результата «за 80», которому Лукашенко некогда невольно приклеил ярлык «элегантного».

На протяжении всей кампании глава государства получал размашистый, затмевавший соперников пиар на телевидении, в других государственных СМИ. Из каждого утюга народ толкали на досрочное голосование (результаты которого, по убеждениюоппонентоврежима — особенно темный лес).

В итоге явка, по данным Центризбиркома, составила 86,75%. При этом был поставлен рекорд досрочного голосования — более 36%.

Да, независимые наблюдатели фиксировали и принуждение, но по большому счету те же студенты, получившие перспективу лишних выходных, не выглядели, выстраиваясь в очереди на «досрочку», такими уж несчастными жертвами режима. Это к вопросу о новом поколении конформистов.

Люди постарше дисциплинированно шли на участки, ведомые привычкой слушать начальство или исполнять ритуал, как в советские времена. Пропагандистские страшилки насчет Украины тоже побудили какую-то часть электората отдать голос за мир и стабильность (понятно, в чьем образе). А кого-то привлек и дешевый буфет.

Независимое внутреннее наблюдение утверждает, что явказавышена.Нопроблемытой части наблюдателей, которую не назначают чиновники, в том, что, во-первых, им мало что позволяют видеть; во-вторых, их дискредитируют (провокаторы и все такое); в-третьих, нет механизма, чтобы опротестовать, например, данные о явке через суд.

**Общество не готово давить на власть**

Впрочем, и данные НИСЭПИ показывали, что порог явки в 50% плюс один голос наверняка будет превышен. К бойкоту этих выборов (агитировать за который к тому же запрещено) в сентябре положительно относилось только 15,5% респондентов.

Избранная частью оппозиции стратегия игнора (закамуфлированного бойкота), который-де испугает правящую верхушку, заставит ее демократизировать парламентские выборы 2016 года, изначально выглядела слабой.

Призывами уехать в день выборов на рыбалку, к теще на блины фактически поощрялся абсентеизм. Таким образом оппозиция демобилизует своих потенциальных сторонников, рискуя провалиться еще глубже в маргинальную нишу.

Вечером 11 октября бывший политзаключенный Николай Статкевич и его соратники объявили о начале кампании «Власть — народу». Намечено к ноябрю презентовать предложения по изменению избирательного законодательства. Но глава Центризбиркома Лидия Ермошина несколько ранее уже заявила: «…Я пока таких перспектив не вижу».

Перед выборами в Палату представителей крылу бойко-тистов предстоит определиться — продолжать или менять прежнюю линию. В любом случае трудно себе представить, что разрываемой взаимным недоверием оппозиции удастся выйти на сильную предвыборную коалицию, консолидированное послание электорату.

По крайней мере, кампания «Говори правду», создавшая «проект Короткевич», давно декларировала, что президентские и парламентские выборы рассматривает в одной связке. Но выдвинутая кампанией стратегия мирных перемен тоже получила пробоину в виде низкого официального результата Короткевич на президентских выборах.

Лукашенко абсолютно ни к чему создавать в стране второго политика-тяжеловеса. Он ускользнул 11 октября на участке даже от журналистского вопроса, получит ли Короткевич должность во власти.

И вообще в рассуждениях действующего президента насчет «человека в юбке», которому-де рано управлять страной, было, на мой взгляд, не столько сексизма (который увидела выдвиженка «Говори правду»), сколько банальной ревностидажекотносительному успеху любого конкурента.

Короче, Лукашенко не особо настроен заигрывать даже с мягкой оппозицией. Так что и надежды «Говори правду» на мандаты в Палате представителей призрачны.

Расчет на то, что власть пойдет на мирные перемены, поразившись реальной доле голосов за Короткевич, так же слаб, как игнор/бойкот.

В принципе, обе эти стратегии имеют целью вынудить власть к переменам через давление со стороны недовольного общества. Но общество деполитизировано, атомизировано. Ворчание на кухнях или фига в кармане — не самое страшное для консолидированного режима, отработавшего механику «элегантных побед».

Реально напрягает Лукашенко лишь улица. Он даже Светлану Алексиевич, получившую на днях литературного Нобеля, похвалил своеобразно: «Она ведь не зовет людей на площадь, она против мятежей этих. Я это очень ценю».

В том же духе был сформулирован и комплимент Короткевич: «Понаблюдал: да, оппозиционер, но не кричит же гвалтом: на плошчу, ломать, крошить и так далее. Вполне вменяемый, нормальный человек».

**«Месячник свободы» окончен**

Там же, на участке, Лукашенко заочно обратился к заводилам несанкционированных уличных акций: «Выборы заканчиваются в 20.00, начинайте жить по закону».

Это тонкий намек на то, что вольнице, обусловленной желанием Минска не ударить в грязь лицом перед наблюдателями ОБСЕ, осталось недолго.

Между тем марш, прошедший по столице 10 октября, перед последним днем голосования, оказался не слишком многолюдным — в районе тысячи человек. На вечер же 11 октября никаких акций верхушка оппозиции и не намечала. Лишь горстка противников режима стихийно вышла на протест (понятно, это и близко не напоминало мощную Площадь-2010).

На акцию, которую Статкевич планирует провести в конце ноября, приурочив к годовщине референдума-1996, тоже вряд ли выйдет много народу. Ведь снова поднимется градус страха, к тому же будет холодно, да и тема давнего референдума сама по себе не слишком зажигательна. А ожидаемый после выборов скачок цен и тарифов еще не скажется на населении в полной мере.

Итак, Лукашенко, получив очередную «элегантную победу», не получил на этот раз массовых протестов. Соответственно, не потребовалось разгона и посадок. В итоге отчет наблюдательной миссии ОБСЕ об этих выборах хотя и не станет большой похвалой, однако окажется, видимо, менее мрачным, нежели пять лет назад.

А панегириков Минск и не ждал. Констатации минимального прогресса вполне достаточно для продолжения нормализации отношений с ЕС и США. Брюссель уже намекнул на скорую приостановку санкций.

Наверняка был рассчитан на Запад и вновь прозвучавший из уст Лукашенко в день выборов выпад против плана Кремля разместить в Беларуси авиабазу. При том что характерные оговорки показывают: на самом деле это, скорее, заявка на торг — как с Западом, так и с Москвой.

**Программы развития у триумфатора нет**

Итак, победитель получает практически все, что хотел — «элегантный» официальный результат, деморализацию внутренних противников, перспективу стать въездным в Европу.

Нет у него лишь «мелочи» — концепции развития страны и политической воли для настоящих перемен. В предвыборной программе акцент сделан на консервацию режима под лозунгом стабильности и мира.

На избирательном участке 11 октября Лукашенко заявил, что «готов на любые мероприятия и любые реформы», однако тут же добавил: «Но выдержите ли вы это? Надо ли вам это?».

Понятно, что при такой постановке вопроса никаких серьезных преобразований (сверх демонстрационного минимума для получения кредитов) ожидать не стоит. Обывателю по душе покой, реформы же, способные вытянуть нашу экономику из болота, по определению дискомфортны.

Тихая деградация страны продолжится. Впрочем, бессменный президент, будучи на участке, утешил народ очередным афоризмом: «Если Лукашенко изберут, то жизнь на этом не останавливается».

**Александр Класковский**



svaboda.org (RFE/RL)

МІЖНАРОДНАЯ АЦЭНКА

# 34 ПАРУШЭНЬНІ, ЗАФІКСАВАНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКАМІ

**Група назіральнікаў ад АБСЭ і Рады Эўропы прадставіла вынікі маніторынгу прэзыдэнцкіх выбараў. Ранейшыя шэсьць прэзыдэнцкіх і парлямэнцкіх выбараў па выніках падобных маніторынгаў былі ацэненыя як неадпаведныя абавязаньням АБСЭ.**

Згодна са справаздачай, «Беларусь яшчэ мае прайсьці доўгі шлях да выкананьня сваіх абавязаньняў па правядзеньні дэмакратычных выбараў». Было адзначана, што назіральнікі ня маюць магчымасьці назіраць за верыфікацыяй подпісаў за вылучэньне ў кандыдаты, за падвядзеньнем вынікаў выбараў. Выбаркамы маюць права абмежаваць доступ назіральнікаў па сваім жаданьні. У палове выпадкаў назіральнікам не далі доступу да сьпісу выбарцаў, часам да працэдуры падліку галасоў.

Свабода перaлічвае некаторыя парушэньні, адзначаныя ў справаздачы міжнародных назіральнікаў:

— Нарматыўна-прававая база не зьмянілася істотна, праўкі ў Выбарчы кодэкс 2013 і 2014 гадоў (унесеныя без публічнага абмеркаваньня) не ўлічылі ключавыя рэкамэндацыі АБСЭ і іншых, у тым ліку рэкамэндацыі адносна незбалянсаванасьці выбарчых камісіяў і працэдуры датэрміновага галасаваньня.

— Абмежаваньне свабоды слова адносна заклікаў да зрыву, скасаваньня ці пераносу выбараў, крымiналізацыя паклёпу і абразы ўладаў.

— Адсутнасьць празрыстых крытэраў адбору сяброў тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісіяў. Фармаваньне гэтых камісіяў засталося ў кампэтэнцыі мясцовай улады.

— Адсутнасьць адзінага сьпісу выбарцаў, што не дае засьцерагчыся ад шматразовай іх рэгістрацыі. Выбарцаў можна рэгістраваць на ўчастках у дзень галасаваньня, што не дае дастатковай юрыдычнай абароненасьці.

— Высокапастаўленыя чыноўнікі агітавалі за дзейнага прэзыдэнта ў

*(працяг на стар. 4)*

МІЖНАРОДНАЯ АЦЭНКА

*(пачатак на стар. №3)*

працоўны час, у некаторых выпадках — на дзяржаўных прадпрыемствах. Некаторыя грамадзкія аб'яднаньні і арганізацыі, якія фінансуюцца дзяржавай, агітавалі за дзейнага прэзыдэнта.

— Фінансавыя справаздачы кандыдатаў не былі выкладзеныя ў адкрыты доступ, адсутнічалі патрабаваньні па аўдыцe, што не забясьпечыла дастатковую празрыстасьць фінансаваньня передвыбарчай кампаніі.

— Некаторыя дзяржаўныя СМІ асьвятлялі выбарчую кампанію з пасланьнямі на карысьць дзейнага прэзыдэнта, ён быў найбольш заўважнай фігурай дзякуючы асьвятленьню яго дзейнасьці як службовай асобы.

— Немагчымасьць абскардзіць некаторыя рашэньні выбаркамаў, у тым ліку канчатковыя вынікі. Абмежаванае кола асобаў, якія маюць права падаць скаргу.

— У шэрагу выпадкаў заяўленая яўка не адпавядала колькасьці подпісаў у сьпісе выбарцаў. На 47 участках знойдзеныя меркавана аднолькавыя подпісы.

— На 22 участках заўважаныя прыкметы ўкіду бюлетэняў.

— З 2001 году ў Беларусі не было зарэгістравана ніводнай новай палітычнай партыі, што супярэчыць параграфу 7.6 Капэнгагенскага дакумэнту АБСЭ 1990 году.

—Трацiна працэдур падліку галасоў, за якімі вялося назіраньне, атрымалі дрэнную ці вельмі дрэнную адзнаку з прычыны значных праблемаў. Чвэрць працэсаў падвядзеньня вынікаў атрымала нэгатыўную адзнаку.

— БДІПЧ назірала за шасьцю апошнімі выбарамі, і ўсе яны былі ацэненыя як не адпаведныя абавязаньням АБСЭ.

— Ніводзін з шасьці асуджаных кандыдатаў у прэзыдэнты на выбарах 2010 году ня быў рэабілітаваны. Правы балятавацца абмежаваныя папярэдняй крымінальнай судзімасьцю; такія дзеяньні, як удзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах, могуць прывесьці да аднаўленьня выкананьня присуду.

— Выбарчы кодэкс забараняе сяброўства ў выбарчых камісіях кіраўнікоў мясцовых выканаўчых і адміністрацыйных органаў. Але іншыя прадстаўнікі кіраўніцтва гэтых органаў — такія, як намесьнікі старшыняў, начальнікі аддзелаў, — займалі кіраўнічыя пасады ў некаторых тэрытарыяльных камісіях альбо кіравалі іх працай.

— У склад тэрытарыяльных і ўчастковых камісіяў была прызначана мізэрная колькасьць прадстаўнікоў апазыцыі, ніводзін зь іх ня быў прызначаны на кіраўнічую пасаду. Іх скаргі на адмову ва ўключэньні ў склад выбарчых камісіяў адхіленыя з фармулёўкай «беспадстаўныя».

— Было адзначана, што ініцыятыўная група дзейнага прэзыдэнта злоўжывала адміністрацыйнымі рэсурсамі ў працэсе збору подпісаў.

— Правілы вэрыфікацыі подпісаў недакладныя і супярэчаць міжнародным добрасумленным практыкам. Таксама яны допускаюць адвольныя рашэньні ТВК, якія ня могуць быць абскарджаныя.

— Нізкая прысутнасьць выбарцаў на бальшыні агітацыйных мерапрыемстваў сьведчыла пра адсутнасьць цікавасьці грамадзкасьці да выбараў.

— Практыка передвыбарчай агітацыі сьцерла мяжу паміж передвыбарчай кампаніяй дзейнага прэзыдэнта і дзяржавай. Некалькі ягоных давераных асоб былі высокапастаўленымі чыноўнікамі, якія працягвалі ажыцьцяўляць свае дзяржаўныя функцыі падчас правядзеньня кампаніі.

— Сход, арганізаваны Міністэрствам абароны, заклікаў усіх цяперашніх і былых вайскоўцаў, а таксама іхнія сем'і, падтрымаць кандыдатуру дзейнага прэзыдэнта.

— Экзарх Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі падтрымаў кандыдатуру дзейнага прэзыдэнта на цырымоніі, дзе прысутнічалі іншыя духоўныя лідэры, прадстаўнікі ўлады, прадзяржаўных партыяў і сам прэзыдэнт.

— Давераныя асобы дзейнага прэзыдэнта арганізоўвалі сустрэчы на дзяржаўных прадпрыемствах, што дало яму непрапамерную перавагу і супярэчыць параграфу 7.7 Капэнгагенскага дакумэнту АБСЭ 1990 году.

— Арганізатары мерапрыемстваў, на якіх ставілася пад сумнеў легітымнасьць выбараў, судом былі аштрафаваныя за правядзеньне іх без дазволу.

— Некаторыя дзяржаўныя органы працягваюць практыку засакрэчваньня грамадзка даступнай інфармацыі, што супярэчыць параграфу 9.1 Капэнгагенскага дакумэнта АБСЭ.

— 22 верасьня ЦВК адхіліла запыт журналіста на прадстаўленьне інфармацыі пра передвыбарчыя фонды кандыдатаў, патлумачыўшы, што СМІ не ўпаўнаважаныя атрымліваць гэтую інфармацыю.

— Папярэднія заключэньні мэдыяманіторынгу сьведчаць пра значна большае асьвятленьне дзейнасьці кіраўніка дзяржавы. За пэрыяд з 7 верасьня па 7 кастрычніка дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне прысьвяцілі 47% свайго палітычнага вяшчаньня дзейнаму прэзыдэнту, 9% — Караткевіч, па 7% — Гайдукевічу і Ўлаховічу.

— Бальшыня скаргаў у ЦВК былі адхіленыя на фармальных падставах альбо як неабгрунтаваныя. Разгляд скаргаў не заўсёды быў празрысты.

— Каля дзьвюх трацінаў усіх акрэдытаваных грамадзянскіх назіральнікаў прадстаўлялі грамадзкія аб'яднаньні, якія фінансуюцца дзяржавай (ФПБ, БРСМ, «Белая Русь»).

— Дрэнная якасьць пячатак і скрыняў часам ставіла пад сумнеў бясьпеку бюлетэняў пры датэрміновым галасаваньні.

— На чатырох працэнтах участкаў назіральнікі адзначылі незахаваньне тайны галасаваньня.

— У 50% выпадкаў назіральнікам было адмоўлена ў праверцы сьпісаў выбарцаў, і ў некаторых выпадках яны не маглі бачыць працэдуру датэрміновага галасаваньня.

— Падлік галасоў атрымаў нэгатыўную ацэнку назіральнікаў. 30% працэдур падліку галасоў былі ацэненыя як дрэнныя альбо вельмі дрэнныя.

— Толькі адзін кандыдат адкрыта крытыкаваў дзейнага прэзыдэнта, што прадставіла выбарцам абмежаваны выбар.

**Іна Студзінская**
**"Радыё Свабода"**

НАША ЖЫЦЦЁ

# НЕ НАШИ

**Не в том смысле, что они по-белорусски не говорят (тем более, что на самом деле говорят, хотя плохо). И не в смысле национальности по рождению. И даже не потому, что сколиоз заработали, оглядываясь на Москву. Власть наша не белорусская по своей сути, по содержанию, по манере исполнения. Власть - одна, а белорусы – другие.**

Вот сейчас интернет гудит, потому что милиция грубо, жестко, за ноги вытягивала из перехода метро слепого инвалида, просившего милостыню. Он ничего не делал, ни к кому не приставал, просто стоял, одним своим видом показывая, что нуждается в средствах к существованию. А они – вот так – нагло, упёрто. Одели наручники, протянули по полу, спустили с лестницы…

Увиденное возмутило свидетелей, отснятое на мобильники видео инцидента – взорвало интернет. «Отпустите его!», «Что вы делаете?!», «Как вы обращаетесь с инвалидами?!», «На каком основании применяете физическую силу?!», - негодовали люди, отбивая несчастного от правохоронителей. А когда видео произошедшего появилось в интернете, гнев усилился тысячекратно. «Позор!», «Такая милиция опасна для общества!», «Министр Шуневич, снимите погоны!»…

Министр погоны не снял. Более того, он хладнокровно сообщил, что «сотрудники милиции действовали в соответствии с законодательством», «не превысили своих полномочий», а их действия руководством МВД оценены «как соответствующие всем нормам и правилам в таких случаях». Иными словами, министр признал: то, что возмущает людей, для власти – норма. То есть, подтвердил, что они живут по другим правилам, по другим понятиям справедливости, по другим меркам. Люди у нас – одни, власть – другая.

Еще пример. 26 сентября на турбазе под Гродно должен был состояться благотворительный концерт группы «Стары Ольса», средства от которого планировалось передать на лечение больного раком 8-летнего Даниила Страшинского. Чиновники концерт не разрешили, отписавшись, что для такого мероприятия не подходит площадка.

Для массовых пьянок-гулянок – отличный вариант, а для сбора средств больному ребенку – не подходит??!

И все-таки мы не первый день в этой стране живем и прекрасно понимаем, что не в площадке причина. Просто выборы у нас сейчас. Неподходящее время для лечения больного ребенка. Какой белорусский чиновник может разрешить несанкционированное сверху мероприятие, если выборы? Если у них задача – особенно рьяно бдеть, чтобы «ничего лишнего»…

Вот и оказался Даниил лишним. Лечение ребенка оказалось лишним.

Люди, обыкновенные белорусы, узнав об этой вопиющей бесчеловечности, за один день перечислили на лечение незнакомого мальчишки гораздо больше денег, чем мог собрать благотворительный концерт. Свое возмущение, несогласие, протест такому государству они высказали рублем. И теперь Даниил просто обязан выздороветь, он просто обязан жить, чтобы увидеть настоящую, другую Беларусь, в которой жизнь человека и, тем более, жизнь ребенка не меряется политической целесообразностью. Она вообще не меряется – она бесценна.

Понятно, что средства на лечение мальчика перечисляли и белорусы, и русские, и поляки, и евреи, но по духу, по мировоззрению, по отношению к ближнему они – белорусы – отзывчивый, добрый, справедливый народ. А вот власть – нет.

И еще одна вопиющая история, всколыхнувшая общественное мнение. У матери-одиночки из Бобруйска забрали детей. Женщина – круглая сирота, сама воспитывалась в детском доме. Чтобы обеспечить другую судьбу сыну и дочери, билась с этой жизнью изо всех сил. Билась, как умела. Иногда оставляла 7-летнего сына в доме за старшего, а сама уходила на завод в ночную смену, потому что так больше платят. Влезла в долги за детский сад, за коммуналку, но делала в квартире ремонт. Все это ей сейчас вспомнили.

Все признают, что дети были сыты, одеты, обуты, досмотрены, что все им мама покупала, ни в чем не отказывала. Правда, однажды сообщила, что заберет дочку из больницы не сегодня, а завтра, потому что должна идти на работу. В другой раз, все из-за той же работы, не навестила, а позвонила по телефону… А еще эти чертовы долги по квартплате и за детский сад, без которых ей было никак не выкрутиться. И заработала государственная машина.

Когда у женщины отбирали 4-летнюю дочь, она, конечно, «спасибо» не говорила. Как написано в протоколе, «оказала физическое сопротивление». Скажу вам прямо: если бы у меня забирали ребенка, то из этой битвы кто-то бы не вышел живым. А тут милиционер не покалечен, у него какие-то царапины, но мать поместили в СИЗО, завели уголовное дело, детей отправили в приют…

Неужели эта несчастная в СИЗО заработает средства, чтобы оплатить долги перед коммунальщиками и перед садиком? Неужели детям лучше жить с чужими, незнакомыми людьми, а не с любящей матерью? Неужели наше государство станет сильнее от того, что такой дорогой ценой отмщены царапины милиционера? Неужели милиционеру и всей Комиссии по делам несовершеннолетних станет легче на сердце, потому что они покалечили жизни троих человек?

Зачем все это?.. Кто, кому и что тут доказывал?.. Почему такое случилось?..

Белорусы, в отличие от государства, рассудили эту историю по справедливости. Всем миром собрали средства на оплату долгов, какой-то добрый человек, не знающий ни эту женщину, ни ее детей и, возможно, никогда не бывавший в Бобруйске, оплатил услуги адвоката… Это для государства несчастная молодая мама оказались статистикой, круглой сиротой, за которую некому заступиться. Вот только она хоть и сирота, но не одна. Она – наша. Потому что мы – народ.

Это они не наши. Такая власть - не наша.

Они – сами по себе, мы – сами по себе. И рано или поздно это несовпадение взорвется.

**Светлана Калинкина**
**«Народная Воля»**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 16.10.2015 у 18.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.